# КЛІМЕНТ ЕФРЭМАВІЧ ВАРАШЫЛАЎ—
# КАНДЫДАТ У ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА СОВЕТА СССР
## АД БЕЛАРУСКАГА НАРОДА



*12 снежня 1937 года ўвесь совецкі народ будзе выбіраць свой вярхоўны орган улады—Вярхоўны Совет СССР. Выбары будуць праводзіцца тайным галасаваннем па новай Сталінскай Канстытуцыі.*

*Кандыдатамі ў дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР працоўныя выстаўляюць самых лепшых людзей краіны. Адным з кандыдатаў ад беларускага народа даў згоду быць першы маршал Совецкага Саюза, саратнік вялікага Сталіна—Клімент Ефрэмавіч Варашылаў. Працоўныя нашай краіны з вялікай радасцю сустрэлі згоду таварыша Варашылава выставіць на галасаванне сваю кандыдатуру ў Вярхоўны Совет па Менскай гарадской выбарчай акрузе.*

*Клімент Ефрэмавіч Варашылаў—адзін з лепшых сыноў нашай слаўнай радзімы.*

Я. КОЛАС.

# ДЭПУТАТ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

Гонар нашаму народу,
Радасць беларускім хатам:
Першы маршал даў нам згоду,
Каб быць нашым дэпутатам!

У парыве шчырым, дружным
Аддамо свой голас Кліму,
І пашанаю акружым
Цябе, маршал наш любімы.

На моц нашу, абарону
Папрацуем мы багата,
І для Арміі Чырвонай
Стол накрыем, як у свята.

Скажаш—і пад сцяг паходны
Непарушнай станем сілай.
Дык жыві-ж ты, Клім наш родны,
Слаўны маршал Варашылаў!

Гонар нашаму народу,
Радасць беларускім хатам:
Першы маршал даў нам згоду,
Будзе нашым дэпутатам!

# СЯРГЕЙ МІРОНАВІЧ КІРАЎ



## СЯРОЖА КОСТРЫКАЎ

Сярожа Кострыкаў нарадзіўся ў 1886 годзе ў невялічкім горадзе Уржуме.

Бацька яго—рабочы—пайшоў у заработкі і прапаў без весткі. Неўзабаве пасля гэтага памерла і яго маці.

У гэты час Сярожу было толькі сем гадоў. Разам з ім засталіся сіратамі і дзве яго сястры.

Апрача старой бабулькі, у дзяцей не было нікога роднага, хто-б змог ім дапамагчы.

Бабулька сама была вельмі бедная, яна атрымлівала пенсію—тры рублі ў месяц. Утрымліваць на такія грошы траіх дзяцей, ды яшчэ самой прахарчавацца было вельмі цяжка.

І вось бабулька пачынае хадайнічаць перад мясцовымі чыноўнікамі, каб яны прынялі Сярожу ў прыют. Шмат было клопату. Нямала давялося старой паабіваць парогі розных чыноўнікаў, пакуль яны ўрэшце згадзіліся прыняць хлопчыка ў прыют.

Кармілі ў прыюце дрэнна. Дзеці хадзілі галодныя, худыя і абшарпаныя.

У прыюце Сярожа пражыў сем гадоў.

Сярожа вучыўся спачатку ў царкоўнапрыходскай школе, а потым у гарадскім вучылішчы.

У 1901 годзе Сярожа Кострыкаў паехаў у горад Казань і паступіў у прамысловае вучылішча.

Жылося яму цяжка. Але вучыўся ён вельмі добра.

Ён старанна працаваў, вельмі цікавіўся тэхнікай і рознымі машынамі.

Аднойчы, разам са сваім таварышам, ён надумаўся змайстраваць электрычны рухавік. Шмат яны папрацавалі, і ўрэшце зрабілі.

К таму часу ў Сярожынага таварыша знасіліся брукі, а грошай у яго не было каб купіць новыя. Сярожа быў заўсёды вельмі чулым да сваіх таварышоў. Ён прапанаваў прадаць машыну і купіць таварышу новыя брукі.

## ПАЧАТАК РЭВОЛЮЦЫЙНАЙ РАБОТЫ

На другі год, у часе канікул, Сярожа прыехаў на адпачынак у горад Уржум.

У той час у горадзе Уржуме знаходзілася многа рэволюцыянераў, сасланых туды царскім урадам. Сярод іх былі студэнты, з якімі Сяргей хутка пазнаёміўся. Яны вучылі Сяргея спяваць рэволюцыйныя песні і давалі чытаць большэвіцкую газету „Іскра“.

Аднойчы Сяргей убачыў у іх лістоўку, надрукаваную на гектографе. Ён адразу зацікавіўся, якім чынам і з чаго можна зрабіць гектограф. Яму падрабязна растлумачылі, і пасля гэтага ён парашыў сам зрабіць гэту прыладу і друкаваць на ёй рэволюцыйныя лістоўкі.

Калі гектограф быў гатовы, Сяргей разам з сваім таварышам Санькам знайшлі ўтульны куточак у старой лазні, шчыльна зачынілі дзверы і пачалі друкаваць лістоўкі.

Адбіткі з гектографа выходзілі на паперы вельмі ўдалыя, і хлопцы былі задаволены. Захопленыя працаю, яны і не заўважылі, як праз некаторы час у іх ужо быў цэлы ахапак лістовак.

Лістоўка канчалася словамі:

„Далоў самаўладства! Няхай жыве рэвалюцыя!“

Хлопцы пазбіралі з падлогі зрыўкі паперы, змылі цёплаю вадою з гектографа сінія радкі літар і схавалі яго ў надзейнае месца.

Пасля гэтага яны сталі класці лістоўкі ў кішэні, за пазуху, у рукавы рубашак і за халяўкі ботаў. Праверылі ці ўсё ў парадку, патушылі свечку і вышлі на двор.

Горад Уржум спаў, нідзе ўжо не відаць было агнёў.

Прыгнуўшыся, яны пабеглі на рынак да драўляных прылаўкаў, на якіх у базарныя дні сяляне размяшчалі свой тавар.

Неўзабаве ўсе прылаўкі былі засланы белымі лістоўкамі.

Адгэтуль яны пабеглі на тракт. Па дарозе на адной вуліцы Сяргей на момант спыніўся і перакінуў цераз агарожу на двор жмут лістовак. Санька палахліва схапіў яго за руку. За агарожаю відаць быў дом павятовага спраўніка.

На тракце яны раскідалі астатнія лістоўкі і ўтомленыя, але задаволеныя, ужо на світанні, вярнуліся дамоў.

Гэта быў пачатак рэвалюцыйнай работы Сяргея Кострыкава.

## ПАДПОЛЬНАЯ ДРУКАРНЯ

Пасля сканчэння прамысловага вучылішча ў Казані, ён паехаў на працу ў горад Томск.

У 1905 годзе ён кіраваў у Томску забастоўкай чыгуначнікаў і першы раз трапіў у турму. Пасля выхаду з турмы, партыя даручыла яму разам з яго таварышамі наладзіць падпольную друкарню.

У той час, калі друкарня ўжо зусім была гатова, раптам наскочыла паліцыя. Паліцэйскія перагрэслі ўвесь будынак, але нічога не знайшлі. Сяргея арыштавалі, а ў падазроным доме пакінулі жыць паліцэйскага.

Тры гады спакойна жыў тут паліцэйскі, але аднойчы ў яго кватэры раптам пахіснулася печ і правалілася некуды ўніз. Выявілася, што гэта абламалася столь падпольнай друкарні.

Друкарня была так добра схавана, што каб не абвалілася столь, то яе ніколі-б не выявілі.



*С. Кострыкаў з сваім таварышам Санькам.*

За рэвалюцыйную работу Сяргея Кострыкава чатыры разы саджалі ў турму. Але не гледзячы на цяжкія ўмовы турэмнага жыцця, Кострыкаў заўсёды быў бадзёры, упарта вучыўся. У томскай турме ён напісаў рэвалюцыйную лістоўку і пераслаў яе сваім таварышам, а 1-га мая гэту лістоўку ўжо чыталі томскія рабочыя.

Пасля вызвалення з турмы Сяргею Кострыкаву давялося змяніць сваё прозвішча. Пад чужым прозвішчам было зручней праводзіць падпольную работу. Сяргей Кострыкаў пачаў звацца Сяргеем Кіравым. Але і Кіраў у хуткім часе стаў вядомы паліцыі як небяспечны рэвалюцыянер.

## У ПЕРШЫХ РАДАХ

З першых дзён рэвалюцыі Сяргей Міронавіч Кіраў змагаецца за савецкую ўладу на Каўказе, у Астрахані і ў іншых мясцовасцях, супроць белых банд царскіх генералаў.

У часе грамадзянскай вайны Астрахань была акружана белымі з усіх бакоў. Нскаторыя таварышы думалі, што нельга ўтрымаць горад і прапанавалі ўзарваць увесь чырвоны астраханскі флот, з тым, каб ён не застаўся белым.

Кіраў, даведаўшыся пра такі план, забараніў нават думаць аб гэтым. Дзякуючы яго намаганням, флот удалося выратаваць. У цёмную ноч большэвіцкія караблі ў адным месцы раптам накінуліся на белых. Было ўзята тры тысячы палонных, дзесяць самалётаў і, апрача таго, вызвалены таварышы, якія знаходзіліся ў небяспецы.

Кіраў вызваліў Астрахань, і сам Ленін прыслаў яму прывітальную тэлеграму.

У часе боя, калі Сёмая каўказская дывізія набліжалася да горада Уладзікаўказа, Кіраў быў на назіральным пасту. Бачыць ён, што на левым флангу пачынаюць адступаць.

Разам з двума разведчыкамі ён мігам прыбыў на левы фланг, спыніў адступаўшых, накіраваў іх супроць ворага і сам паімчаўся наперад.

Конь пад ім быў забіты, ён упаў, моцна ўдарыўся, але адразу падняўся. Да канца бою ён заставаўся ў першых радах.

Праз чатыры гадзіны Уладзікаўказ быў узяты Чырвонай Арміяй.



*С. Кострыкаў у 1904 годзе.*

## ЛЮБІМЕЦ НАРОДА

Пасля грамадзянскай вайны Сяргей Міронавіч Кіраў разам з бакінскімі большэвікамі аднаўляў разбураныя нафтавыя промыслы.

У 1926 годзе партыя паслала Сяргея Міронавіча Кірава ў Ленінград.

Пад яго кіраўніцтвам ленінградскія рабочыя выканалі ў тры гады першую пяцігодку. Пабудаваны новыя заводы, дамы культуры, клубы, новыя школы.

Ленінградскія рабочыя вельмі хутка палюбілі таварыша Кірава. Сяргей Міронавіч вельмі часта выступаў на сходах, заходзіў на заводы, у школы, дамы культуры і магазіны. Ён сам асабіста правяраў, як выконваюцца ўказанні партыі.

Кожны працоўны нават на вуліцы мог спаткаць таварыша Кірава і пагаварыць з ім. Кіраў быў любімцам народа.

Ворагі народа скарысталі недастатковую пільнасць аховы. 1 снежня 1934 г. куляй крывавага забойцы, падасланага подлымі трацкістамі, бухарынцамі і іншымі ворагамі, быў забіты лепшы сын нашай радзімы Сяргей Міронавіч Кіраў.

Уся краіна з глыбокім жалем і сумам сустрэла жахлівую вестку аб смерці Сяргея Міронавіча Кірава.

Загінуў кіраўнік ленінградскіх большэвікоў, верны ленінец, лепшы друг таварыша Сталіна.

Але забойцы пралічыліся. Іх выкрылі і знішчылі, як шалёных сабак. Ворагам народа няма і не будзе літасці.

Я. Г.



# ЯК ДЗЯДЗЬКА ТАМАШ НАПАЛОХАЎ ВАЎКОЎ

КУЗЬМА ЧОРНЫ

*Апавяданне*

1

Добра было ў раннюю восень у калгасе. З поля прыбралі багаты ўраджай, сеялі жыта. На адным палетку яшчэ ляжалі снапы позняга аўса. На паплавах гатова была да касьбы атава. Яшчэ дацвіталі познія палявыя кветкі, а на высокім беразе пры рэчцы купчасцілася сухая мятліца.

Увосень ночы доўгія. Калі хмары не закрываюць месяца, на полі відаць далёка. На высокім беразе расла маладая асінка. І хоць высокі бераг не зусім блізка ад калгаса, але ў месячныя ночы асінка відаць з-пад самай калгаснай аўчарні.

У аўчарні начавалі авечкі. Іх было многа. Яны спалі на саломе. Дзядзька Тамаш, аўчар і свінавод, замкнуў дзверы позна, ужо зусім змеркла. Перадаючы нанач ключы вартаўніку Уладзю Якавецкаму, дзядзька Тамаш пастаяў з ім на агародзе. Яны пагаварылі аб тым, што неўзабаве трэба будзе выбіраць бульбу, а пасля пра тое, што ў суседнім калгасе ваўкі ўхапілі некалькі авечак.

У аўчарні абазваліся два маладыя баранчыкі, вялікія свавольнікі. Яны набегаліся за дзень па полі, выбіраючы смачнейшую траву, і цяпер укладаліся спаць на саломе.

Дзядзька Тамаш падаў Уладзю Якавецкаму руку і пайшоў дадому вячэраць і спаць.

На высокім беразе было ціха, толькі на маладой асінцы лісце, як і заўсёды, дрыжала і злёгку шумела. Па той бок рэчкі быў поплаў, а за поплавам лес. Слаўна пахла адтуль сасной.

Калі месяц падняўся і пабялеў, з лесу на поплаў вышла чарада ваўкоў. Іх было штук сем, яны ішлі адзін за адным. Спераду ішоў стары воўк, ён вёў усіх астатніх. Гэта быў спрактыкаваны воўчы важак. Ён ішоў нюхаючы паветра, выцягнуўшы сваю морду. Да яго слыху дайшоў голас маладога баранчыка з аўчарні. Воўк чмыхнуў і пайшоў шпарчэй. Ваўкі за ім таксама паддалі ходу. Воўчы важак многа бачыў на сваім вяку прыгод. Яшчэ ўчора ён задраў па той бок лесу на выгане кабылу. Кабыла баранілася і дала яму заднімі нагамі па баку, ад гэтага ён цяпер крыху накульгваў.

Каля самай аўчарні было густое зелле. Ваўкі ўвайшлі ў яго і сталі прыслухоўвацца. Уладзя Якавецкі абышоў аўчарню і пайшоў да канюшні, дзе застукаў конь. Ваўкі падаліся пад сцяну аўчарні і сталі пад яе падгрэбацца.

Страшэнная сумятня пачалася ў аўчарні. Авечкі, наскокваючы адна на адну, гуртам

кідаліся ад адной сцяны да другой. Пачалося гэта з таго моманту, калі воўчая морда ўсунулася ў аўчарню з-пад сцяны: ваўкі лезлі праз выграбеную яму. Заблішчалі воўчыя вочы, воўк коратка і гучна дыхнуў на ўсю аўчарню, чуючы ноздрамі пах авечак. Два маладыя баранчыкі сумна забэкалі. Раптам адзін баранчык, той, што з белай лапінкай на ілбе, адчуў страшэнны боль у спіне. Воўк хапіў яго зубамі і паімчаў у чорную прорву.

У гэты час на дварэ пачуўся стрэл. Па ўсім калгасе ўжо брахалі сабакі, непадалёку чуліся галасы. Людзі беглі бараніць авечак. Было чутно як якнуў кароткім скавытаннем воўк, адразу пасля стрэлу. Уладзя Якавецкі бачыў як перакаціўся падстрэлены воўк і завалтузіўся на зямлі. Уладзя Якавецкі стрэліў другі раз. Зноў ён бачыў як упаў воўк, які толькі што вылез праз дзірку з аўчарні.

Людзі стаялі густым натоўпам. Самы апошні воўк кідаўся ва ўсе бакі, акружаны людзьмі. У яго два разы стрэлілі. Ён збіў з ног чалавека, пераскочыў цераз яго і скрыўся ў густым зеллі. Зелле было густое і расло яно скрозь паўз плот. Воўк імчаўся па зеллі, яно шуршэла. Пасля затрашчала дошка, нешта глуха стукнула, быццам штосьці цяжкае кудысьці ўпала.

Людзі пачалі разыходзіцца, асталіся толькі дзядзька Тамаш і Уладзя Якавецкі. Яны пайшлі глядзець авечак, а пасля, замкнуўшы аўчарню, сталі на дварэ закурваць. Раптам яны пачулі зусім блізка каля сябе нейкія падазроныя гукі. Быццам хтосьці гроб зямлю, боўтаўся ў вадзе, падаў у яе, моцна чмыхкаў. Чутно было як у ваду сыплецца пясок і падаюць камені.

— Што гэта?—сказаў Уладзя Якавецкі, знімаючы стрэльбу з пляча.

Дзядзька Тамаш азірнуўся наўкола і прыслухаўся, з якога боку ідуць незразумелыя гукі.

— А ведаеш,—сказаў ён Уладзю Якавецкаму,—гэтыя гукі ідуць з ямы. Ідзі паслухай.

Уладзя Якавецкі таксама ўвайшоў у зелле. Там была яма. Год таму назад дзесяць гэта быў калодзезь, цяпер ён асыпаўся і вады ў ім асталося толькі ў дне. Яго агарадзілі жэрдкамі і ніхто там не хадзіў. Гэтую глыбокую яму меліся засыпаць зямлёй.

Сапраўды з гэтай ямы ішлі гукі: нехта там драпаў кіпцямі, лез, падаў, плюхаўся ў вадзе.

— Воўк у яме!—гукнуў Уладзя Якавецкі, і дзядзька Тамаш, запаліўшы ліхтар, падышоў бліжэй.

— Спусці па вяроўцы ліхтар у яму,—сказаў Уладзя Якавецкі.

Дзядзька Тамаш прывязаў да ліхтара вяроўку і пачаў спускаць ліхтар уніз. Яны ўбачылі, што ў яме сапраўды сядзеў воўк. Гэта быў той самы воўк-важак, які прывёў сюды чараду ваўкоў. Гэта ў яго два разы стрэлілі і гэта ён, збіўшы з ног чалавека, кінуўся ў зелле. Са страху ён не разбіраўся, куды бяжыць і, скочыўшы цераз густы зараснік чартапалоху, рынуўся проста ў яму. Ліхтар спусцілі амаль што да самага дна. Воўк прыціснуўся ў кут, заляскаў зубамі, падрапаў зямлю і палез угару. Але зямля ў яго з-пад лап пасыпалася і ён ляпнуўся ў ваду. Усхапіўшыся, ён зноў пачаў лезці ўгару і зноў сарваўся.

— Задушыў баранчыка? Цяпер сядзі,—сказаў Уладзя Якавецкі і адступіў на крок ад ямы.

Дзядзька Тамаш выцягнуў з ямы ліхтар. Тымчасам днела. Туман як састоенае малако напаўняў паплавы. Месяц знік. Зоры тухлі. На ўсю вуліцу спявалі пеўні.

## 2

Што ваўкі душылі авечкі—пра гэта ўсе ведалі яшчэ ўночы. Але што воўк уваліўся ў яму і не можа адтуль вылезці—пра гэта даведаліся толькі цяпер. Людзей назбіралася многа. Кожны прыбег хоць глянуць. Вельмі рана паабуджваліся дзеці і, пакуль ісці ў школу, гадзін дзве таўкліся каля ямы, дзе сядзеў воўк. Уладзя Якавецкі ўжо напэўна дзесяты раз расказваў як ён уначы застрэліў два ваўкі і як дзядзька Тамаш спускаў ліхтар у яму.

— Што-ж рабіць, браткі, з ваўком?—шмат разоў пытаў у ва ўсіх Уладзя Якавецкі.

— Застрэліць проста ў яме,—гаварылі амаль усе.

— Застрэліць не вялікая справа, але якая з гэтага карысць?—падаў голас дзядзька Тамаш.

— А якое ты хочаш карысці?



здагадаўшыся, што хоча рабіць дзядзька Тамаш.—То гэта ты хочаш ваўка жывога з ямы дастаць? Дайце хіба я вазьмуся.

І падкруціўшы вус, Уладзя Якавецкі пачаў спускаць жэрдкі ў яму.

— Старайцеся хапіць яго ў гэтыя нажніцы і пасля сціснуць!—камандаваў дзядзька Тамаш, не могучы ўстаяць спакойна на месцы.

— А як ты думаў,—абзываўся Уладзя Якавецкі, нацэльваючыся растапыранымі канцамі звязаных жэрдак на ваўка.

— О так, о так, хапай яго! — клапаціўся дзядзька Тамаш.

— Пачакай, дай усё зрабіць абдумана, — даваў заўвагу Уладзя Якавецкі з такім выглядам, быццам гэта ён сам выдумаў усю гэтую справу.

І хапіўшы ваўка за сярэдзіну кароткімі канцамі жэрдак, звёў іх доўгія канцы.

— А такое хачу карысці, каб нагнаць на ваўкоў страх.

— Як-жа ты нагоніш?

— Вы толькі слухайце мяне, я чалавек бывалы.

Дзядзька Тамаш быў чалавек вельмі рухавы. Ён пачаў камандаваць, гэты добры і вясёлы дзядзька Тамаш.

— Нясіце, браткі, сюды дзве даўгія жэрдкі і вяроўку,—крычаў ён, размахваючы каля ямы рукамі.—А вы, малыя, не лезце на самы край ямы, бо зямля калі аб'едзе, то і ты сам ляпнеш як гнілы гарбуз проста ваўку на галаву. От табе тады будзе весела!.. Не лезь, кажу!

Калі прынеслі дзве даўгія жэрдкі, дзядзька Тамаш склаў іх роўна адну пры адной і звязаў вяроўкай блізка да танчэйшых канцоў. Пасля крыху развёў канцы. Вышла штосьці падобнае да даўжэзных жардзяных нажніц.

— Спускайце, хлопцы, гэтыя нажніцы ў яму,—скамандаваў дзядзька Тамаш.

— Хэ-хэ-хэ,—рагатнуў Уладзя Якавецкі,

— Цяпер трымайце хлопцы!—закрычаў ён.

— Звязаць канцы!—яшчэ мацней закрычаў дзядзька Тамаш, падбягаючы з кавалкам вяроўкі.—Цяпер цягніце ўгару.

Паволі цягнулі ўгару сціснутага паміж жэрдак ваўка, баяліся, каб ён не сарваўся. А як выцягнулі і паклалі на зямлю, і ўбачылі яго вышчараную ляпу, зноў пачалі гаварыць, што трэба зараз-жа застрэліць.

— Мы яго страляць не будзем, а пусцім жывога,—сказаў дзядзька Тамаш.

— Што ты ўздурнеў, чалавеча!—загулі галасы.—Дзе гэта хто бачыў, каб жывога ваўка з рук пускаць?

— Вы слухайце мяне, я чалавек бывалы. Прынясіце сюды тыя званкі, якія пастух навешвае каровам на шыю, калі пускае іх у лес.

— Нашто?

— Самі ўбачыце, я чалавек бывалы.

— Паглядзімо, што зробіць бывалы чалавек,—пацiснуў плячыма Уладзя Якавецкі і паслаў малога па званкі.

Неўзабаве ўсе стаялі і са здзіўленнем маўчалі: дзядзька Тамаш, накінуўшы ваўку на галаву дзяругу, вешаў яму на шыю самы званчэйшы званок.

— Што ты робіш?—закрычала некалькі чалавек.

— Я ведаю, што я раблю, я чалавек бывалы.

Мокры і напалоханы воўк дрыгаў нагамі і рваўся з усіх сіл. Павесіўшы яму на шыю званок, дзядзька Тамаш зняў з яго галавы дзяругу.

— Цяпер адыдзіцеся далей і дайце яму дарогу,—скамандаваў ён.

— Нашто яму даваць дарогу?

— Я чалавек бывалы, слухайце мяне.

Усе адышліся назад. Дзядзька Тамаш узяўся за доўгія канцы жэрдак і развязаў іх. І ў той-жа момант усе аж ахнулі: воўк адчуўшы волю, так рвануўся з месца і так пабег, што ад шпаркага ходу некалькі разоў перакуліўся цераз галаву. Званок матляўся на яго шыі і звінеў браскучым гукам. Адбегшыся далей, воўк раптам пачаў заўважаць гэты гук, які ішоў у яго з-пад шыі. Ён бег і круціў галавой. Гук не адрываўся ад яго, а імчаўся з ім разам. Жах апанаваў ваўка. З усіх ног ён дабег да высокага берага, пераскочыў цераз рэчку і як ашалелы дабег да лесу. Гук імчаўся ў яго пад шыяй з ім разам. Воўк як куля ляцеў між дрэвамі і кустамі ў тое цёмнае месца, дзе ў гушчарні заўсёды хавалася ўдзень воўчая чарада.

Ваўкі сапраўды былі там. Яны ляжалі пад карэннем вывернутай яліны і каля іх валяліся абгрызеныя авечыя косці. Усё такі некалькімі авечкамі яны сёння ўночы пажывіліся. Яны соладка драмалі, пахаваўшы свае морды ў пярэднія лапы.

Раптам над самымі іхнімі вушамі грымнуў браскучы звон. Яны ўсхапіліся і кінуліся наўцёкі. Бягучы, яны чулі як звон гоніцца за імі следам, вось-вось ужо даганяе іх. Яны паддавалі большага ходу, а звон усё гнаўся за імі. Іхні важак як звар'яцелы даганяў іх, каб як і заўсёды быць разам з імі. Але яны, таксама як і ён, млелі ад жаху: ён ад таго, што ў яго пад шыяй штосьці звоніць, яны ад таго, што гэты звон гоніцца за імі следам. Так яны імчаліся цераз поле і паплавы, цераз лясы, пераскоквалі цераз дробныя рэчкі. Усе яны задыхаліся ад стомленасці. У адным месцы яны выбеглі на шырокую лясную паляну. Зморапы важак, які даганяў іх і не мог дагнаць, на момант суняўся пад ялінай. Усе яны, не чуючы за сабой звону, прыселі на паляне і пачалі аддыхвацца. Стары воўк з-за яліны





ўбачыў, што яны сядзяць спакойна, і ўзрадаваны кінуўся да іх. Загучэў званок, і ваўкі зноў рвануліся з месца Небывалая з'ява ў іхнім воўчым жыцці гнала іх нямаведама куды, а стары воўк, ахоплены жахам, бесперастанку даганяў іх. Жах яго быў не толькі ад таго, што ў яго пад шыяй звоніць званок, але яшчэ і ад таго, што яго таварышы не падпускаюць яго да сябе блізка і ўцякаюць ад яго.

Ашалелая чарада ваўкоў выбегла на глухую лясную сцежку. Непадалёку ад яе было воўчае логавішча. Быццам шукаючы ратунку, перапалоханыя ваўкі пабеглі туды. Там пад густымі кустамі ляжала чарада сытых ваўкоў: яны толькі што задралі і з'елі на выгане двое коней. Убачыўшы, што незнаёмая чарада прыбегла да іх і спынілася, яны забурчэлі і павышчарылі зубы, гатовыя кінуцца на няпрошаных гасцей. Але ў той-ж момант стары воўк з усяго размаху даскочыў да іх. Грымнуў званок і ўсе яны, разам з сваімі няпрошанымі гасцямі, пабеглі. Воўк са званком на шыі кінуўся за імі следам. Мусіць, яны яшчэ недзе падхапілі чараду ваўкоў, а можа і дзве, бо тамашнія калгаснікі расказвалі, што бачылі вялікае воўчае зборышча, якое імчалася праз лес, а следам гнаўся вялізны воўк са званком на шыі.

### 3

Добра было ясным днём на высокім беразе. Унізе цвырчэла вада ў рачулцы, на дрэвах пракідалася жоўтае лісце. Слаўна пахла грыбамі. Баравікі, сыравежкі і рыжыкі выглядалі з травы і з-пад лісця.

Пасля трэцяга ўрока ўся школа пайшла на высокі бераг пацешыцца з яснага дня і пазбіраць грыбоў. Але, самае важнае, дзецям хацелася паглядзець буслоў. Гэта была найцікавейшая з'ява. Буслы рыхтаваліся адлятаць на зіму ў цёплыя краіны. Яны збіраліся ў вялікі гурт і спрабавалі свае крыллі. Больш за пяцьдзесят буслоў цэлы дзень кружылася над высокім берагам, дзе ўвясну і ўлетку яны так многа знаходзілі сабе пажывы. Цяпер яны развітваліся з гэтым улюбёным сваім месцам. Каля сотні дзяцей стала каля раскладзенага агню і глядзела ўгару на буслоў.

— Глядзіце, глядзіце!—закрычаў раптам малы Валодзя,—бачыце колькі сабак выскачыла з таго вунь лесу за рэчкай.

— А-ёй, колькі сабак!—зацягнула сваім тоненькім галаском дзесяцігадовая Настачка.

— Гэта-ж не сабакі, а ваўкі!—закрычаў Сцёпа.—Сюды імчацца!

Сапраўды ваўкі імчаліся проста на дзяцей. Не паспелі спалоханыя дзеці апамятацца і схавацца за дрэвамі, як ваўкі з усяго размаху пачалі адзін за адным пераскокваць цераз рэчку. Праз хвіліну ўся воўчая чарада ляцела далей, ёй было не ў галаве, каб чапаць дзяцей. За чарадой гнаўся воўк з грымучым званком на шыі.

— Гэта-той самы воўк, якому дзядзька Тамаш павесіў званок на шыю!—загукаў Сцёпа і ўсе пабеглі ў той бок, дзе зніклі за кустамі ваўкі.

Выбегшы з кустоў, дзеці ўбачылі дзіўны малюнак: на скошаным поплаве два калгасныя пастухі стаялі зусім перапалоханыя, яны не ведалі што рабіць. Проста на іх ляцела чарада ваўкоў і дзесьці за ёю бесперапынку

званіў званок. Звон быў моцны, аж глушыў. Каровы і авечкі трывожна беглі па поплаве, а коні, якія пасвіліся крыху далей, пабеглі цераз балота. Але пасля было яшчэ большае здзіўленне: ваўкі прабеглі проста праз чараду кароў, нічога не зачапіўшы і праз хвіліны тры схаваліся за балотам.

Расказвалі, што яны дабеглі да вялікай рэчкі, праз якую не маглі пераскочыць і завярнуліся назад. І сапраўды ў той самы дзень бачылі як яны зноў прабеглі тым самым поплавам да высокага берагу і па той бок рачулкі ўскочылі ў свой ранейшы лес.

Некалькі дзён пасля гэтага людзі гаварылі, што ў лесе бесперапынна звоніць званок, і не ў адным месцы, а то ў адным баку лесу, то ў другім. Бачылі, што з лесу часам выбягае чарада ўспененых ваўкоў і назад хаваецца ў лес. А часам з лесу выбягаў вялікі воўк са званком на шыі. Ён быў увесь мокры ад поту, і ад зморанасці ледзьве перабіраў нагамі. Ён ужо бегаў не так шпарка, як у першыя дні. Але часам, бачачы, што чарада ваўкоў занадта ўжо далёка ад яго адбеглася, ён збіраў апошнія сілы і шпарчэй гнаўся за імі, каб дагнаўшы іх, так як і раней быць з імі. Але яны перапалоханыя небывалым звонам, які ішоў ад іхняга важака, імчаліся далей.

А яшчэ праз некалькі дзён шырокай лясной дарогай ехала фурманка. На фурманцы сядзелі: Уладзя Якавецкі, дзядзька Тамаш і яшчэ два калгаснікі. Яны ехалі ў мястэчка купляць, што ім трэба было. Яны гаварылі аб чарадзе ваўкоў, што як ашалелыя бегаюць, ратуючыся ад свайго звінючага важака.

— А што, я казаў, што на ваўкоў нагонім страху,—весела сказаў дзядзька Тамаш.

Раптам конь натапырыў вушы, захроп, стаў на дыбкі і не пайшоў далей.

— Што такое?—сказаў Уладзя Якавецкі і глянуў наперад у дарогу.

— Можа чарада ваўкоў бяжыць?—весела сказаў дзядзька Тамаш.

— Не можа быць,—адказаў адзін калгаснік,—так можа што. Ужо дзён два не чуваць гэтага звону.

Усе злезлі з воза і раптам убачылі тое, чаго спалохаўся конь: на абочыне дарогі ляжаў здохлы воўк са званком на шыі.

— А браткі мае, што я гэта бачу!—здзіўлена завёў Уладзя Якавецкі.—Гэта-ж той самы воўк.

— А ты думаў які!—весела абазваўся дзядзька Тамаш.

— От табе наш баранчык даўся ў знакі,—не мог змоўчаць Уладзя Якавецкі.—Бегаў-бегаў і здох ад зморы і страху.

І Уладзя Якавецкі падкруціў вус. Дзядзька Тамаш прысеў, каб лепш разгледзець ваўка, і зарагатаў:

— Хэ-хэ-хэ, я чалавек бывалы.



Малюнкі В. ЦІХАНОВІЧА



*У 1812 годзе. Партызаны вядуць захопленых у палон французаў.*
*З карціны Пранішнікава.*

# „ДВАДЗЕСЯТ ЯЗЫКАЎ“

Нарыс Я. МАЎРА

Сто дваццаць пяць гадоў назад праз нашу краіну прайшлі на ўсход, як тады казалі, „двадзесят языкаў“, дайшлі да Масквы, а потым пакаціліся назад.

Гэта быў паход французскага імператара Напалеона І.

За трыццаць гадоў да таго часу ў Францыі адбылася буржуазная рэвалюцыя: скінулі караля Людовіка XVI, прагналі буйных памешчыкаў.

Як яно заўсёды бывае, за пакрыўджаных памешчыкаў заступіліся замежныя памешчыкі і каралі. Супроць Францыі пачалі вайну некалькі дзяржаў. Але маладая французская рэспубліка перамагла ўсе гэтыя дзяржавы.

Асабліва вызначыўся таленавіты французскі генерал Напалеон Банапарт. Дзе-б ён ні ваяваў, усюды меў поспех. Тады ён узяў усю ўладу ў свае рукі, скасаваў рэспубліку і абвясціў сябе імператарам.

Паступова ён заваяваў большую частку Еўропы. Засталіся толькі вялікія дзяржавы— Англія і Расія. У 1812 годзе Напалеон і пайшоў заваёўваць Расію. Армія яго складала да шасцісот тысяч чалавек; у яе ўваходзілі прадстаўнікі бадай усіх еўрапейскіх народаў, адкуль і пайшла славянская назва „двадзесят языкаў“ (народаў).

Шлях французскай арміі ішоў праз Беларусь. Войскі ішлі і праз Менск, і праз Барысаў, праз Полацк і Віцебск. Рускае войска было ў тры разы меншае па колькасці і не так добра ўзброена. Яно не магло затрымаць армію Напалеона і павінна было адступаць. У некаторых месцах, напрыклад, пад Смаленскам, адбываліся і вельмі ўпартыя бойкі, але рускім усёроўна прыходзілася адступаць. Французы няўхільна набліжаліся да Масквы.

Нарэшце, у жніўні месяцы, за сто кілометраў ад Масквы, каля сяла Барадзіна адбылася апошняя спроба затрымаць французаў. Жорстка біліся і рускія і французы. Па пяцьдзесят тысяч народу палягло і з таго і з другога боку. Але ніхто нікога не перамог. Надышла ноч. Заўтра павінен быў вырашыцца лёс бітвы.

Але камандуючы рускім войскам генерал Кутузаў не захацеў рызыкаваць і загадаў свайму войску адступіць. Такім чынам дарога на Маскву Напалеону была адкрыта. Французы занялі пакінутую жыхарамі сталіцу. Напалеон ужо лічыў, што вайна скончана, што Расія пераможана.

Але вышла нешта зусім нечаканае і незразумелае: з усіх канцоў запалала Масква,

і палілі яе самі рускія. Французы сядзелі ў палаючай Маскве і не ведалі, што ім далей рабіць. Ці ісці зімою семсот кілометраў на Пецярбург, ці яшчэ куды далей? Але як пойдзеш, калі французскае войска ўсё змяншаецца, а рускае павялічваецца. Бо цяпер ужо ўвесь рускі народ паўстаў супроць замежных заваёўнікаў. Французы не маглі носа высунуць з Масквы: усюды іх пільнавалі і атрады войска і партызаны. Пачалася галадуха, хваробы.

І Напалеон вымушан быў ісці назад па той самай дарозе, па якой прышоў, гэта значыць, па той дарозе, дзе ўжо ўсё было разбурана, спалена, дзе нельга было знайсці спажывы. Напалеон паспрабаваў быў пайсці другой дарогай, але рускія войскі не пусцілі яго. А тут яшчэ ранняя зіма выдалася такая лютая, якой даўно ўжо не было. Салдаты французскай арміі на сваёй радзіме нават не чулі пра такую зіму і цёплага адзення, вядома, не мелі.

Пачалося адступленне вялікай французскай арміі. Толькі напалеонаўская гвардыя сяк-так захавала свой вайсковы выгляд, а рэшта войска хутка паратварылася ў беспарадачны натоўп галодных людзей, захутаных ва ўсялякае рыззё. Ды яшчэ кожны стараўся цягнуць з сабой награбленую здабычу. Увесь шлях адступлення быў усеяны трупамі. Ззаду і з бакоў ішло рускае войска і партызаны. Яны не давалі спакою захватчыкам ні ўдзень, ні ўначы.

У такім стане, у канцы лістапада, французы падышлі да горада Барысава, дзе ім трэба было пераходзіць праз раку Бярэзіну. Але тут французаў ужо чакала руская армія пад камандай адмірала Чычагова. Па рацэ Бярэзіне ў гэты час ішлі крыгі.

Напалеон нібы пачаў рыхтавацца да пераправы ля Барысава, а тым часам сапраўдную пераправу наладзіў за дванаццаць кілометраў адсюль, каля вёскі Студзёнкі. Сяк-так скалацілі ў ледзяной вадзе два масты і пачалі пераправу. Пераправа ішла цэлы тыдзень і каштавала Напалеону столькі сама, як і вялікая бойка. Шмат народу патапілася, падушылася ў штурханіне, пабілі адзін аднаго, не кажучы ўжо пра абстрэл з рускіх гармат. Масты некалькі разоў разбураліся. Арганізаваныя вайсковыя часці праходзілі лёгка і без вялікіх страт, але каб дабрацца да мастоў, ім прыходзілася са зброяй прабівацца праз натоўп неарганізаваных салдат, забіваць сваіх-жа таварышоў.

Пасля гэтай пераправы ад французскай арміі засталося толькі сорак тысяч чалавек, а дадому вярнулася—трыццаць тысяч.

Так быў разгромлены рускім народам імператар Напалеон з яго „двадзесяццю языкамі".

# ВОЖЫК

**(Пісьмо дзяткора ДЗЯНІСА ГРЫЧАНКОВА)**



**Аднойчы ўвосень мы пайшлі ў лес па грыбы. Ідучы па лесе, мы заўважылі нешта жывое. Гэта быў вожык. Ён нёс на спіне некалькі лісцікаў з дрэў. Мы пачалі за ім сачыць, але не заўважылі, куды ён падзеўся.**

**Раптам з боку пачуўся піск. Гэта сабака знайшоў вожыка, мы пазналі свайго гончага сабаку Снежку.**

**— Снежка! Снежка! — паклікалі мы яго. Ён забрахаў і прыбег да нас, віляючы хвастом, а потым зноў пабег назад. Вожыка на тым месцы не было. Тады сабака пабег па слядах, спыніўся ля карча і пачаў капаць пад ім зямлю. Раскапаўшы зямлю, мы ўбачылі гняздо вожыка. Там было шмат лісцяў і моху, а вожык ляжаў скручаным у кутку. Нам шкада было яго, бо мы разбурылі гняздо, але цяпер ужо ведаем, як зімуюць вожыкі.**



*Малюнкі К. ГЕДДЫ.*

# ПРЫГОДЫ ВЯЛІКАГА ЧОРНАБУРАГА

## (АПАВЯДАННЕ ПРА СІБІРСКАГА МЯДЗВЕДЗЯ)

### I. НА ПАЛЯВАННІ

Настала ноч. Пах чаромхі напаўняў паветра. У траве і на дрэвах стракаталі конікі, а між кустоў, шэргаючы крыллямі, насіліся кажаны.

Вялікі Чорнабуры павольна ішоў уздоўж ручая. Ён быў галодны і дрэнна сябе адчуваў. Вядома, можна было паласавацца падбелам—сочнай раслінай, якой шмат расло каля вады, але Вялікаму Чорнабураму хацелася свежага мяса.

Раптам на абрыве пачуўся шорах. Вялікі Чорнабуры падняў галаву; у тую-ж хвіліну яго шэрсць на спіне пастала дыбам. Якая нагласць! Асмеліцца трапіцца яму на дарозе! Мядзведзь ухнуў, два разы скочыў і ўзабраўся на абрыў. Невялікі белагруд[1] кулём пакаціўся праз палянку і з усяе сілы паімчаўся ў лес. Вялікі Чорнабуры кінуўся спачатку наўздагон, але ля кустоў спыніўся: трэск сушняку, які аддаляўся, сведчыў аб тым, што белагруд прызнаваў перавагу праціўніка.

Прагнаўшы белагруда (якога ён не захацеў-бы есці, нават калі-б і злавіў), Вялікі Чорнабуры накіраваўся па схілу гары да ракі. Па дарозе ён пашчапаў гнілую калоду і з'еў некалькі смаўжоў.

Ля затона Вялікі Чорнабуры спыніўся: сярод розных пахаў, якія даносіліся з ракі, выразна вылучаўся пах дзікай казы. Ён то знікаў, калі ветрык падаваўся ў бок, то зноў з'яўляўся.

Затон так густа зарос тальнікам, што падкрасціся да казы было немагчыма. Вялікі Чорнабуры абнюхаў зямлю і крыху правей трапіў на свежы казіны след. Ён вёў да той часткі затону, над якой узвышалася гара.

Мядзведзь звярнуў са следу і залёг недалёка ў кустах. У начным прыцемку самае пільнае вока не змагло-б адрозніць яго ад кучы павалу.

Казіны пах знік. З'явіўся і таксама знік агідны пах тхара. Аднекуль з балота даносіўся пах дзікіх свіней.

Вялікі Чорнабуры ляжаў нерухома. Хмары камароў кусалі яго нос, губы, павекі, але мядзведзь цярпліва пераносіў боль і толькі міргаў вачыма, калі маленькія крывасосы заблытваліся крылцамі ў расніцах.

Ледзь улавімы шорах прымусіў яго насташыцца. Скрозь тальнік лёгкаю ходою прабіралася каза. Вялікі Чорнабуры ціха падняўся і скруціўся ў камяк. Каза спакойна варочалася назад ранейшым следам, агібаючы кучу буралома.

Вялікі Чорнабуры скручваўся ўсё больш і больш, пакуль каза не падышла блізка.

---

[1] Так называюць невялікіх мядзведзей, якія водзяцца ў Усурыйскім краі.

У гэты момант яна заўважыла ворага. Позна, надта позна! Каза шарахнулася ў бок, але мядзведзь наваліўся на яе і прыціснуў да зямлі...

Наеўшыся ўволю, Вялікі Чорнабуры ледзь падняўся. Хацелася піць. Ён напіўся ў затоне і, вярнуўшыся да трупа казы, заваліў яго галлём і мохам. Ён заўсёды рабіў так, каб захаваць здабычу надалей.

За гэтай справай яго застала раніца. Дзесьці на гары закрычала сарока. Вялікі Чорнабуры падняўся па схілу гары ў густы хмызняк. Ён доўга таптаўся там, пакуль выбраў зручнае месца каля велізарнага каменя, у густым арэшніку. Тут ён улёгся і, палажыўшы галаву на пярэднія лапы, моцна заснуў.

## II. СУТЫЧКА З МЯДЗВЕДЗІЦАЙ

Сонца дакранулася да гары. Вячэрнія цені папаўзлі па далінах, ушчэльях усё далей і вышэй, пакуль не заслалі горных вяршынь. З ракі дыхнуў халадок.

Вялікі Чорнабуры прачнуўся. Ён быў яшчэ не галодны, але зараз-жа ўспомніў пра казу. Ці не дабраліся да яе ваўкі або вароны? Мядзведзь падняўся і, моцна страсянуўшыся, стаў спускацца са схілу гары.

Раптам... Што гэта? Ён пачуў дзіўныя гукі, якія даносіліся з затона. Каля зараснікаў тальніка, якраз у тым месцы, дзе ляжалі рэшткі казы, капашыліся нейкія звяры. Так яно і ёсць! Разбойнікі знайшлі казу і наладзілі цэлую пірушку...

Вялікага Чорнабурага апанавала лютасць. Ён прарваўся праз кусты і галопам пабег уніз з гары. Ён быў страшны, доўгая шэрсць яго пастала дыбам і з зева вырывалася грознае бурчанне. Каза належала яму. Смерць дзёрзкім зладзеям, смерць!

Каля трупа казы сядзела мядзведзіца з двума медзведзянятамі. Мядзведзіца аддзірала зубамі кавалкі казінага мяса, а медзведзяняты прагна рвалі іх і вішчалі як шчаняты. Ад казы засталіся нечапанымі толькі галава і частка задняй нагі.

Раптоўны шум і трэск прымусілі мядзведзіцу падняць галаву. Высока падкідаючы пярэднія лапы, проста на яе імчаўся велізарны мядзведзь. Медзведзяняты перасталі есці і палахліва прытуліліся да маткі. Але мядзведзіца не змяніла позу, толькі вочы яе зрабіліся круглымі і злымі.

Раптам Вялікі Чорнабуры прыцішыў бег. Яго нібы аблілі халоднай вадой: шэрсць пачала апускацца і сярдзітае бурчанне спыні-



лася. Выцягнуўшы шыю, ён стаў прынюхвацца да незнаёмых гасцей.

Тут адбылося тое, чаго Вялікі Чорнабуры ніяк не чакаў: мядзведзіца раптам кінулася на яго. Яна была разы ў паўтары меншай, але білася з незвычайнай хуткасцю і рашучасцю. Вялікі Чорнабуры не паспеў апамятацца, як атрымаў вельмі моцны ўдар. Ён адступіў на крок, але атрымаў дзве аплявухі—у нос і ў вуха. Ён заматаў галавою, але ўдары сыпаліся адзін за другім. Вялікі Чорнабуры сеў на зад і пачаў нязграбна адмахвацца лапамі. Дарэмна! Мядзведзіца біла трапна, пусціўшы ў ход абедзве лапы.

Вялікі Чорнабуры не вытрымаў. Ён павярнуўся і кінуўся наўцёкі. Мядзведзіца пагналася за ім і яшчэ некалькі разоў укусіла яго. Потым яна вярнулася да медзведзянят.

Пасля перажытага канфузу Вялікі Чорнабуры доўга бадзяўся па лесе. Яму было не па сабе. Калі зусім сцямнела, ён вярнуўся к затону.

## III. БОЙ З ТЫГРАМ

Сярод дня Вялікі Чорнабуры быў разбуджаны дзіўным шумам. Ён у момант усхапіўся на ногі. Збянтэжаная ад страху ізюбрыха[1] прарвалася скрозь куст, у двух кроках ад яго і ўпала на калені. На яе крупе вісеў вялікі звер з чорнымі палосамі на залаціста-жоўтай шэрсці. Сваім цяжарам ён валіў ізюбрыху на бок.

Кожны валасок на Вялікім Чорнабурым стаяў тырчма. Напасці на ізюбрыху каля яго логава! Гэта было тое самае, што напасці на яго самога. Мядзведзь зароў і, рынуўшыся на ворага, ўдарам лапы сарваў яго з ізюбрыхі.

Тыгр папаўся знянацку. Захоплены бойкаю, ён зусім не заўважыў мядзведзя. Ён узняўся на ногі і намерыўся ўцячы, але Вялікі Чорнабуры падабраў яго пад сябе. Усякі іншы звер, на месцы тыгра, загінуў-бы. Але тыгр не паддаваўся мядзведзю ў сіле і меў перавагу над ім у лоўкасці. Ён перакуліўся на спіну і стаў абараняцца кіпцюрамі і зубамі. Ворагі качаліся па траве, ірвалі адзін аднаго да таго часу, пакуль тыгру не пашанцавала вызваліцца з мядзведжых лап. Ён быў памяты і скрываўлены. Пышнае футра на галаве і на баках вісела лахманамі. Ён кінуўся ў прагаліну між кустоў і доўгімі скачкамі панёсся па схілу гары. Вялікі Чорнабуры галопам паімчаўся за ім, але неўзабаве спыніў пагоню. Ён быў страшна ўскудлачаны і ўзрушаны. Нават праз гадзіну (калі ён адышоўся далёка ад месца боя), яго шэрсць усё яшчэ ўздымалася і ён грозна роў.

Інстынкт прымусіў мядзведзя знайсці куточак, дзе ён мог-бы адляжацца і залізаць раны. Ён правёў тут чацвёра сутак. У час глыбокай ночы ён ненадоўга пакідаў свой прытулак і спускаўся к ручаю напіцца вады. Ён нічога не еў, апрача лекавых траў, якія знаходзіў у яры. Амаль усе раны ўдалося залізаць: засталася адна—рваная рана на плячы, якой ён не мог дастаць языком. Яна доўга балюча адчувалася пры хадзе.

У канцы чацвертых сутак Вялікі Чорнабуры адчуў голад. Ён з апетытам з'еў сцяблоў падбелу і знішчыў качае гняздо, якое знайшоў у зарасніку балота.

*(Канец у наступным нумары).*

**А. Пятроў.**

[1] Ізюбр—алень; ізюбрыха—самка аленя.

# ПЕРШЫ СНЕГ

**Закружыліся сняжынкі**
**Над зямлёй пчаліным роем.**
**Коля, Маня, Вася, Нінка**
**Лепяць „бабу“ пад гарою.**

**Колькі радасці рэбятам!**
**Скачуць, бегаюць, смяюцца.**
**Вось і Грыша вышаў з хаты—**
**Ёсць цяпер дзе разгарнуцца!**

**Прачынайцеся „снягуркі“,**
**Лыжы доўгія і санкі!**
**Вось з крутой гары наш Юрка**
**Паляцеў нібы маланка.**

**Мы бясконца снегу рады.**
**Выхадзі на двор, браток!**
**Скора мы усім атрадам**
**Пойдзем з песняй на каток.**

**Дзяткор Гаўрук Васіль.**

# АКЦЯБРАТЫ З ТРЭЦЯГА КЛАСА

Таня вышла з дому ў чатыры гадзіны дня. На вуліцы было хмурна і халодна. Па небе плылі густыя асеннія хмары. У твар дзьмуў сярдзіты вецер. Таня засцягнула на ўсе гузікі паліто і праз вуліцу хутка накіравалася к скверу. Ідучы па ўсыпанай пажоўклым лісцем дарожцы сквера, яна заўважыла сваю сяброўку.

— Мы не спознімся, Зіна?—запытала яна.

— Не,—упэўнена адказала Зіна.

— Давай усё-ж прыбавім кроку, я хачу паспець верш паўтарыць.

Расчырванеўшыся, з гучным смехам убеглі Зіна і Таня ў школу.

А ў школе ўжо сабраліся рэбята. Адны спявалі, другія гулялі ў квача, бегаючы па двары, іншыя збіралі каля дрэў жоўтыя лісты.

А вось і настаўніца, Геня Паўлаўна, ідзе і важатая Галя. Цяпер ужо няма часу паўтараць верш. Зараз пачнецца рэпетыцыя інсцэніровкі, танцаў—усяго, што рэбята падрыхтавалі да XX гадавіны Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Дзеці спыняюць шумныя гульні і ідуць у цёплы, утульны піонерскі пакой. Адзяюць там свае касцюмы, расстаўляюць сталы. Хутка ўсё прыводзіцца ў парадак, і рэпетыцыя пачынаецца: дэкламатары расказваюць вершы пра жыццё нашай краіны, пра гераічны іспанскі народ, які змагаецца за сваё вызваленне, некалькі рэбят чытаюць біяграфію таварыша Сталіна. Акцябраты добра падрыхтавалі п'еску „На заставе". У ёй паказана жыццё пагранічнікаў.

Затым Таня Муляўка, апранутая ў каўказскі касцюм, прыгожа танцуе лезгінку, Купер Толя танцуе украінскі гапак...

Кожны з рэбят стараецца лепш выканаць сваю ролю.

Акцябраты з трэцяга класа не толькі актыўныя ўдзельнікі самадзейнасці, яны і вучацца добра. Люда Махнач і Таня Муляўка расказваюць пра свой клас наступнае:

— У нашым класе 11 выдатнікаў, 16 вучацца на „добра", а астатнія маюць па адным або два „пасрэдна". Вось толькі Сёма Зайдэнкноп дрэнна піша. Геня Паўлаўна займаецца з ім асобна, і ён абяцаў больш старанна пісаць.



*Дзяўчаткі выконваюць танец.*

Самыя лепшыя нашы выдатнікі—Зіна Маразоўская, Геня Гурэвіч, Валя Рэмбергер і Толік Максіменко.



*Сцэна з п'ескі „На заставе".*

На акцябрацкіх зборах мы знаёмімся з піонерскімі атрыбутамі. Вывучаем тэкст урачыстага абяцання. Ужо ведаем, чаму піонерскі гальштук мае чырвоны колер. Хутка мы будзем піонерамі і атрымаем права насіць піонерскі гальштук.

**М.- О.**

**Менск, 9 школа, 3 клас.**

С. МАРШАК

# ПЕСНІ АНГЛІЙСКІХ ДЗЯЦЕЙ



## СКРЫПАЧЫ І ТРУБАЧЫ

Стары дзедка Міколь
Быў капусны кароль,
Моцна крыкнуў ён світе сваёй:
— Гэй, наліце нам кубкі,
Ды набіце нам люлькі,
Ды паклічце маіх скрыпачоў,
Ці-лі-лі,
Ды паклічце маіх трубачоў,
Ту-ру-ру.
Ды паклічце маіх трубачоў.
А за тое, што мне тут сыграюць яны,
Ім на шыю капусты па два качаны
Загадае павесіць кароль,
Ды маркоўкі
Пучок,
Ды гароху
Стручок,
Не пакрыўдзіць нікога кароль.
— Ці-лі-лі,—заігралі ў траве скрыпачы,
Дваццаць конікаў, дзве саранчы.
Ту-ру-ру,—затрубіў варанячы народ.
Буль-буль-буль,—адгукнуліся жабы з балот.
Буль-буль-буль,
Ква-ква-ква,
Буль-буль-буль,
Ква-ква-ква,—
Адгукнуліся жабы з балот.



## ШАЛТАЙ-БАЛТАЙ

Шалтай-балтай
Сядзеў на сцяне.
Шалтай-балтай
Зваліўся у сне.
Уся каралеўская
Конніца,
Уся каралеўская
Раць
Не можа
Шалтая,
Не можа
Балтая,
Шалтая,
Балтая,
Балтая,
Шалтая,
Шалтая-Балтая
Сабраць.

# У КІНО

**ЖАРТ.**



*— Зніміце кепку, вы—ў кіно.*
*Вы засланілі палатно.*



*Ён не спрачаўся, кепку зняў,*
*Але... экран зусім прапаў!*

# ДВА КОННІКІ

## ЗАГАДКА

Два коннікі часта спрачаліся паміж сабою аб тым, хто каго перагоніць. Не раз яны ішлі навыперадкі, і то адзін перагоніць, то другі.

Нарэшце адзін з іх, Грышка, і кажа:

— Давай згодзімся на такую ўмову: выйграе той, чый конь прыдзе да вызначанага месца не першым, а другім.

— Добра,—адказаў яму другі коннік, Міхалка,— давай.

Паселі яны на коней, выехалі на дарогу. Усе хлопцы, што пасвілі коней, збегліся глядзець, хто выйграе, бо надта-ж дзіўная ўмова. Далі каманду: раз, два, тры!.. А коннікі—ні з месца. Хлопцы смяяцца пачалі, па рознаму абмяркоўваць гэту справу ўзяліся: ці можна такую ўмову выканаць? І, нарэшце, парашылі, што нічога з гэтай спрэчкі не выйдзе, бо ніхто не хоча ехаць першым: праедуць некалькі крокаў ды спыняцца. На гэту спрэчку надышоў Янка Сашнік, што найлепшым штукаром лічыўся ў калгасе. Даведаўся чаго сабраліся хлопцы, ды і кажа да ўсіх:

— Зараз яны паімчацца стралою—і адзін і другі.

Падышоў Янка да коннікаў, шапнуў ім нешта на вуха. Пераглянуліся коннікі, і неўзабаве сапраўды стралою паімчаліся наперад. Кожны стараўся цяпер абагнаць адзін другога.

Што параіў ім Янка?

*АДКАЗ: Перасесці Грышку на Міхалкавага каня, і—наадварот: Міхалку—на Грышкавага.*

# ЦІ ДОЎГА ЖЫВУЦЬ ЖЫВЁЛЫ?

**Найдаўжэй жывуць чарапахі. Яны дажываюць да 200 год.**

**Рыбы жывуць ад 40 да 60 год.**

**Сярэдні тэрмін жыцця сланоў—50 год, насарогаў—45, коней—40, кароў—40, мядзведзяў—35, малпаў—35, катоў і жырафаў—30 год.**

**Што да птушак, дык некаторыя папугаі дажываюць да 100 і больш год. Дробныя птушкі—салаўі, канарэйкі і г. д.—жывуць да 25 год.**


**ІСКРЫ ІЛЬІЧА**

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ АКЦЯБРАТ І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ.
ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА“

ЛІСТАПАД 1937 г. № 11.

ЦАНА 30 кап.



# ХТО КАГО ЗЛАВІЎ



1. Так негры ловяць малпаў.

2. Малпы бачаць яблык.



3. Клюнула! З яблыкам рукі не дастанеш, а здагадацца выпусціць яблык малпа не можа.



4. Ёсць!



5. Малпа злоўлена.



6. Чым-жа я горшы?—падумаў сабе зайздросны англічанін.



7. Пачакаем... На дыню зловім самую вялікую малпу.



8. Ёсць!



9. Хто-ж каго злавіў?..

Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ Афармленне В. ЦІХАНОВІЧА Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ

Друкарня імя Сталіна. 20.000 экз. Зак. № 1748. Уп. Галоўлітбела № 3377.